









АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

29 снежня 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 52 (2662)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

# З НОВЫМ, 2000 ГОДАМ!



**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь дасылае ўсім замежным суайчыннікам шчырыя віншаванні з Новым годам і Нараджэннем Хрыстовым.**

**Жадаем, каб ў 2000-м годзе ў вашых сем'ях панавалі дабрабыт, лад і згода, каб захоўвалася ў вашых сэрцах любоў да "родных ніў", Беларусі і мацнелі нашы сувязі.**

**З павагай**

**Аляксандр БІЛЫК,**
**старшыня камітэта.**

## СВЯТОЧНАЯ АНКЕТА

**Арсен ВАНІЦКІ, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.**

*1. Якая падзея, на вашу думку, аказала найбольш моцны ўплыў на гісторыю ў XX стагоддзі?*

— Найбольшы ўплыў на гісторыю беларускага народа аказала перамога над фашысцкімі захопнікамі ў другой сусветнай вайне.

*2. Што з гэтага стагоддзя вы ўзялі б у наступнае і што пакінулі б у мінулым?*

— Мару аб тым, каб у наступным стагоддзі працоўны люд меў тыя ж сацыяльныя здабыткі, якія меліся яшчэ дзесяць гадоў таму: магчымасць атрымліваць адукацыю, калі маеш для гэтага жаданне і розум, а не толькі грошы; займацца творчасцю, а не толькі бізнесам; мець магчымасць звяртацца ў медыцынскія ўстановы, ведаючы, што там лечаць не толькі рэцэптамі... У мінулым варта пакінуць тое, што супярэчыць жыццёваму сэнсу: войны, зайздрасць, дэманстрацыю нацыянальнай, рэлігійнай перавагі.

*3. 2000-ны — апошні год XX стагоддзя. Што вы хацелі б паспець зрабіць за гэты час?*

— Вельмі патрэбна для нармальнага жыцця людзей грамадзянская згода. І яшчэ патрэбна кожнаму з нас вялікая, непераможная вера ў сваю родную Беларусь, у светлае жыццё, якое гарманізавала б з нашымі прывабнымі абшарамі. Гэтую веру вельмі карысна падмацоўваць кожны дзень плённымі крокамі і дзеяннямі.

Стар. 6.

## НАПЯРЭДАДНІ

# У ГОНАР 2000-годдзя ХРЫСЦІЯНСТВА

Аб зацвярджэнні ў Беларусі памятнага знака, прысвечанага 2000-годдзю хрысціянства, паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы да 2000-годдзя хрысціянства і сустрэчы трэцяга тысячагоддзя старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Білык.

Памятны знак будзе несці ўзнагародную функцыю і ўручацца тым людзям, якія ўнеслі найбольшы ўклад у духоўнае адраджэнне беларускага народа. Ён уяўляе сабой настольны медаль дыяметрам 70 міліметраў. У цэнтры круга на фоне выгнутай формы, якая сімвалізуе купал храма свету, размяшчаецца выява крыжа Святой Ефрасінні Полацкай у абрамленні промняў. У верхняй яго частцы зроблены надпіс "2000 год хрысціянства", а ў ніжняй — надпіс "Беларусь" на стужцы. Нумарное пасведчанне ўладальніка памятнага знака зроблена так, каб у нашчадкаў была магчымасць захоўваць яго на сцяне ў рамцы. Усяго да 2000-гадовага юбілею хрысціянства будзе выраблена 2 000 памятных знакаў.

Да таго ж на 2000-ны год арганізацыйным камітэтам намечана вялікая праца па выпуску альбомаў, марак і канвертаў з юбілейнай сімволікай. На працягу гэтага года Міністэрства сувязі Беларусі праводзіла спецыяльны дзіцячы конкурс малюнкаў "Наш родны край — у трэцім тысячагоддзі": на марках, якія будуць выдадзены да юбілею хрысціянства, адлюструюць работы яго пераможцаў.

І спецыяльна для тых, хто да апошняга моманту так і не вызначыўся, калі ж трэба сустракаць трэцяе тысячагоддзе і юбілей хрысціянства, Аляксандр Білык агучыў афіцыйную пазіцыю свецкіх уладаў і царквы наконт гэтага: 2000 год лічыцца і ў католікаў, і ў праваслаўных хрысціян юбілейным, але 2000-годдзе хрысціянства католікі будуць адзначаць 25 снежня 2000 года, а праваслаўныя хрысціяне — 7 студзеня 2001 года. Трэцяе ж тысячагоддзе наступіць 1 студзеня 2001 года.

## З ПАШТОВАЙ СКРЫНКІ

**Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты "Голас Радзімы"!**

Рада беларускай суполкі "Світанак" у Кыргызстане дзякуе вам за рэгулярны выпуск газеты і віншуе ўсіх з Новым, 2000 годам!

Будзьце здаровыя і шчаслівыя!

**З павагай**

**старшыня Рады беларускай суполкі "Світанак"**
**Н. МІРОНАВА.**

* * *

Хачу выказаць калектыву газеты "Голас Радзімы" сардэчную падзяку. Вось ужо некалькі гадоў маю магчымасць атрымліваць весткі з Радзімы, сачыць за падзеямі ў Беларусі, суперажываць ім.

Нарадзіўся я ў Драгічынскім раёне Брэсцкай вобласці. Ужо няма ў жывых нікога з блізкіх мне людзей, але памяць пра родныя мясціны застаецца з чалавекам назаўжды.

З верасня 1997 года пакінуў і палітыку, і настаўніцкую працу. На вашу газету падпісаўся на 2000 год на хатні адрас. Калі даводзіцца пабываць на роднай зямлі — цяжка сказаць. Дасылаю супрацоўнікам рэдакцыі разам са словамі ўдзячнасці маю маленькую кніжыцу. Можа, якія-небудзь парады палічыце карыснымі.

Шчыра жадаю ўсім добрага здароўя і ўдачы!

**Мікалай МАКАРЭВІЧ.**
Расія, г. Саратаў.

*Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!*

*Шчыра дзякую за святочныя вітанні, за добрыя пажаданні — у маёй адзіноце яны ўзнялі мой Spirit.*

*Зычу паважаным супрацоўнікам газеты бадзёра сустрэць Каляды-Раство Хрыстова і высокі 2000 год.*

Масей СЯДНЁЎ.

### ВУЛІЦА

**Як сяліўся я на гэтай вуліцы,**
**думаў я, гэта вуліца будзе мая.**
**Колькі год прамінула, схлынула,**
**а яна, гэта вуліца, ўсё не мая!**

**Я схадзіў гэту вуліцу, вытаптаў.**
**Колькі дум перадумаў, па ёй ідучы!**
**Быццам зросся з ёю, бяздомны, я,**
**але гэтая вуліца ўсё не мая.**

**Колькі вестак прыйшло мне на гэту вуліцу**
**ад сяброў на радзіме маёй,**
**вестак добрых, і сумных, і радасных,**
**але гэтая вуліца ўсё не мая.**

**Павязуць мяне гэтай вуліцай**
**у свет іншы, прыгожы свет.**
**Па ёй пройдзе святар з малітваю,**
**але гэтая вуліца ўсё не мая.**

**Не крыўдуй на мяне ты, зацятага,**
**заставайся з Богам у турбоце сваёй:**
**адпусціць аніяк не хоча мяне**
**адна вуліца на радзіме маёй.**

1999, Глен Коў, ЗША.



# КОЛЬКАСЦЬ І АСНОЎНЫЯ САЦЫЯЛЬНА-ДЭМАГРАФІЧНЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫКІ НАСЕЛЬНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## *ПАВОДЛЕ ДАНЫХ ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА 1999 ГОДА*

1. Колькасць пастаяннага насельніцтва Рэспублікі Беларусь па перапісу на 16 лютага 1999 года склала 10 мільёнаў 45 тысяч чалавек. У гарадскіх пасяленнях пражывала 6 мільёнаў 961 тысяча чалавек — 69 працэнтаў, у сельскіх населеных пунктах — 3 мільёны 84 тысячы чалавек — 31 працэнт агульнай колькасці насельніцтва.

Акрамя таго, на дату перапісу ў рэспубліцы ўлічана 18,5 тысячы чалавек, якія часова знаходзіліся на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Змяненне колькасці насельніцтва рэспублікі, абласцей і г. Мінска характарызуецца наступнымі данымі:

| | Тысяч чалавек | | | | | 1999 у % да | | 1989-1999 прырост (+), змяншэнне(-) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1959 | 1970 | 1979 | 1989 | 1999 | 1959 | 1989 | |
| Рэспубліка Беларусь | 8032 | 8992 | 9532 | 10152 | 10045 | 125,1 | 99,0 | -107 |
| Вобласці: | | | | | | | | |
| Брэсцкая | 1177 | 1293 | 1358 | 1449 | 1485 | 126,1 | 102,5 | +36 |
| Віцебская | 1273 | 1369 | 1385 | 1410 | 1377 | 108,2 | 97,7 | -33 |
| Гомельская | 1359 | 1531 | 1595 | 1668 | 1545 | 113,7 | 92,6 | -123 |
| Гродзенская | 1074 | 1118 | 1127 | 1163 | 1185 | 110,4 | 101,9 | +22 |
| Г.Мінск | 508 | 916 | 1273 | 1607 | 1680 | 331,1 | 104,6 | +73 |
| Мінская | 1465 | 1538 | 1547 | 1575 | 1559 | 106,4 | 99,0 | -16 |
| Магілёўская | 1176 | 1227 | 1247 | 1280 | 1214 | 103,2 | 94,8 | -66 |

У перыяд паміж перапісамі насельніцтва 1989 і 1999 гадоў адбылося абсалютнае змяншэнне колькасці насельніцтва на 107 тысяч чалавек (або на 1 працэнт), выкліканае натуральным змяншэннем насельніцтва (перавышэннем колькасці памерлых над колькасцю народжаных), аб'ём якой павялічваўся і не кампенсаваўся міграцыйным прыростам.

2. Гарадское насельніцтва рэспублікі пражывае ў 104 гарадах і 108 пасёлках гарадскога тыпу. Сельскае насельніцтва пражывае ў 23 457 сельскіх населеных пунктах.

У сталіцы Рэспублікі Беларусь г. Мінску сканцэнтравана 1 680 тысяч чалавек, або 24 працэнты агульнай колькасці гарадскога насельніцтва.

У рэспубліцы 15 гарадоў маюць колькасць насельніцтва больш як 100 тысяч чалавек, у іх пражывае 67 працэнтаў гарадскога насельніцтва.

У перыяд з 1989 па 1999 год колькасць гарадскога насельніцтва павялічылася на 319 тысяч чалавек (на 5 працэнтаў), што ў 5 разоў менш, чым за папярэднія 10 гадоў з 1979 па 1988 год.

Колькасць сельскага насельніцтва зменшылася ў 90-я гады на 426 тысяч чалавек, або на 12 працэнтаў, у той час як за 1979—1988 гады яна зменшылася на 788 тысяч чалавек.

Змяненне колькасці гарадскога і сельскага насельніцтва па абласцях паміж перапісамі 1989 і 1999 гадоў прадстаўлена ў наступнай табліцы:

| | Гарадское насельніцтва, тыс.чал. | | | | Сельскае насельніцтва, тыс.чал | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1989 | 1999 | Прырост(+), змяншэнне(-) | | 1989 | 1999 | Змяншэнне(-) | |
| | | | Тыс.чал | У % | | | Тыс.чал. | У % |
| Рэспубліка Беларусь | 6642 | 6961 | +319 | +4,8 | 3510 | 3084 | -426 | -12,2 |
| вобласці: | | | | | | | | |
| Брэсцкая | 819 | 902 | +83 | +10,1 | 630 | 583 | -47 | -7,4 |
| Віцебская | 906 | 923 | +17 | +1,9 | 504 | 454 | -50 | -10,0 |
| Гомельская | 1065 | 1054 | -11 | -1,0 | 603 | 491 | -112 | -18,5 |
| Гродзенская | 665 | 741 | +76 | +11,3 | 498 | 444 | --54 | 10,8 |
| г.Мінск | 1607 | 1680 | +73 | +4,6 | - | - | - | - |
| Мінская | 739 | 808 | +69 | +9,3 | 836 | 751 | -85 | -10,1 |
| Магілёўская | 841 | 853 | +12 | +1,5 | 439 | 361 | -78 | -17,9 |

3. На сучасную структуру насельніцтва Рэспублікі Беларусь па ўзросту і полу зрабілі істотны ўплыў не толькі падзеі апошніх дзесяці гадоў, але і ўсе сацыяльна-палітычныя, эканамічныя падзеі і войны адыходзячага стагоддзя, чарнобыльская экалагічная катастрофа 1986 года і выкліканыя імі змяненні ў патоках міграцыі, размеркаванні насельніцтва на гарадское і сельскае, узроўні і структуры занятасці як мужчын, так і жанчын, узроўні нараджальнасці і смяротнасці.

Змяненні, якія адбыліся ва ўзроставай структуры насельніцтва, характарызуюцца наступнымі данымі:

| | Колькасць, тыс. чал. | | 1999 у % да 1989 | У % да выніку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1989 | 1999 | | 1989 | 1999 |
| Усё насельніцтва | 10151,8 | 10045,2 | 99,0 | 100 | 100 |
| У тым ліку ва ўзросце гадоў | | | | | |
| 0 – 4 | 819,2 | 476,1 | 58,1 | 8,1 | 4,7 |
| 5 – 9 | 786,9 | 656,1 | 83,4 | 7,8 | 6,5 |
| 10 -14 | 731,0 | 828,3 | 113,3 | 7,2 | 8,2 |
| 15 – 19 | 706,9 | 790,4 | 111,8 | 7,0 | 7,9 |
| 20 – 24 | 705,9 | 710,0 | 100,6 | 7,0 | 7,1 |
| 25 – 29 | 857,2 | 688,8 | 80,4 | 8,4 | 6,9 |
| 30 – 34 | 837,0 | 704,5 | 84,2 | 8,2 | 7,0 |
| 35 – 39 | 725,6 | 839,0 | 115,6 | 7,2 | 8,4 |
| 40 -44 | 525,9 | 810,4 | 154,1 | 5,2 | 8,1 |
| 45 – 49 | 539,9 | 680,1 | 126,0 | 5,3 | 6,8 |
| 50 – 54 | 654,2 | 489,7 | 74,9 | 6,4 | 4,9 |
| 55 – 59 | 628,2 | 473,2 | 75,3 | 6,2 | 4,7 |
| 60 – 64 | 580,3 | 563,0 | 97,0 | 5,7 | 5,6 |
| 65 – 69 | 359,2 | 493,6 | 137,4 | 3,5 | 4,9 |
| 70 гадоў і старэй | 694,2 | 840,8 | 121,1 | 6,8 | 8,3 |
| маладзей за працаздольны | 2482,6 | 2131,9 | 85,9 | 24,5 | 21,2 |
| працаздольным (жанчыны 16 – 54, мужчыны 16 – 59 гадоў) | 5685,0 | 5752,1 | 101,2 | 56,0 | 57,3 |
| старэй за працаздольны | 1984,0 | 2160,0 | 108,9 | 19,5 | 21,5 |

У рэспубліцы ўзмацняецца працэс старэння насельніцтва. У адпаведнасці з класіфікацыяй ААН насельніцтва лічыцца старым, калі доля асоб ва ўзросце старэй за 65 гадоў складае 7 працэнтаў. Паводле даных перапісу насельніцтва 1999 года, у рэспубліцы доля гэтай часткі насельніцтва перавысіла 13 працэнтаў. Пятая частка ўсяго насельніцтва — асобы старэй працаздольнага ўзросту.

Колькасць мужчын па перапісу склала 4718 тысяч чалавек, жанчын — 5327.

За дзесяць гадоў у суадносінах мужчын і жанчын у агульнай колькасці насельніцтва адбыліся істотныя змяненні.

Змяненне суадносін колькасці мужчын і жанчын у асобных узроставых групах, колькасць жанчын на 1000 мужчын гарадскога і сельскага насельніцтва, прадстаўлена наступнымі данымі:

| | Усё насельніцтва | | Гарадское насельніцтва | | Сельскае насельніцтва | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1989 | 1999 | 1989 | 1999 | 1989 | 1999 |
| Усяго | 1137 | 1129 | 1117 | 1123 | 1177 | 1144 |
| у тым ліку ва ўзросце, гадоў: | | | | | | |
| 0-15 | 963 | 952 | 961 | 951 | 969 | 955 |
| 16-17 | 964 | 957 | 1034 | 980 | 786 | 882 |
| 18-19 | 1026 | 940 | 1197 | 947 | 643 | 908 |
| 20-24 | 1017 | 973 | 1092 | 996 | 837 | 898 |
| 25-29 | 984 | 1001 | 1056 | 1042 | 802 | 889 |
| 30-34 | 997 | 1015 | 1066 | 1079 | 809 | 854 |
| 35-39 | 1011 | 1019 | 1073 | 1099 | 833 | 810 |
| 40-49 | 1061 | 1067 | 1064 | 1146 | 1054 | 854 |
| 50-59 | 1215 | 1184 | 1196 | 1188 | 1237 | 1174 |
| 60-69 | 1689 | 1460 | 1593 | 1452 | 1780 | 1470 |
| 70 і старэй | 2544 | 2412 | 2490 | 2290 | 2580 | 2528 |

4. Паводле даных перапісу насельніцтва 1999 года, на тэрыторыі рэспублікі прыжываюць прадстаўнікі больш чым 130 нацыянальнасцей і народнасцей. Нацыянальнасць, як і пры мінулых перапісах, указвалася насельніцтвам, якое апытвалася, на аснове іх самасвядомасці. Нацыянальнасць дзяцей вызначалася бацькамі.

Большасць жыхароў — 81 працэнт — аднеслі сябе да карэннай нацыянальнасці — беларусаў, 11 працэнтаў — да рускіх, амаль 4 працэнты — да палякаў, 2 працэнты — да ўкраінцаў, 0,3 працэнта — да яўрэяў.

Змяненні колькасці насельніцтва асноўных нацыянальнасцей паміж перапісамі 1989 і 1999 гадоў прадстаўлены наступнымі данымі:

| | Тысяч чалавек | | 1999 у % да 1989 | У % да выніку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1989 | 1999 | | 1989 | 1999 |
| Колькасць насельніцтва - | | | | | |
| усяго | 10152 | 10045 | 99,0 | 100 | 100 |
| у тым ліку: | | | | | |
| беларусы | 7905 | 8159 | 103,2 | 77,9 | 81,2 |
| рускія | 1342 | 1142 | 85,1 | 13,2 | 11,4 |
| палякі | 418 | 396 | 94,7 | 4,1 | 3,9 |
| украінцы | 291 | 237 | 81,4 | 2,9 | 2,4 |
| яўрэі | 112 | 28 | 24,8 | 1,1 | 0,3 |
| іншыя нацыянальнасці | 84 | 80 | 95,2 | 0,8 | 0,8 |
| не ўказалі нацыянальнасць | 0,1 | 3 | - | - | - |

Пытанне распаўсюджанасці моў сярод насельніцтва вывучалася ў комплексе, г. зн. насельніцтву прапаноўвалася адказаць на тры пытанні: назваць сваю родную мову, мову, на якой размаўляе дома, і іншую мову, якой свабодна валодае.

Назвалі роднай мовай мову сваёй нацыянальнасці амаль 82 працэнты насельніцтва рэспублікі, 18 працэнтаў назвалі мовы іншых народаў. У 1989 годзе гэты паказчык складаў адпаведна 78 працэнтаў і 22 працэнты.

На мове сваёй нацыянальнасці размаўляе дома 45 працэнтаў насельніцтва.

На беларускай мове звычайна размаўляюць дома 3683 тысячы чалавек, або 37 працэнтаў насельніцтва рэспублікі. З іх 3373 тысячы чалавек (92 працэнты) складаюць беларусы. Аднак сярод беларусаў іх удзельная вага складае ўсяго 41 працэнт.

Рускую мову, якая ў якасці мовы звычайна ўжываецца дома, назвалі 6 308 тысяч чалавек, або 63 працэнты агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі. З іх 4783 тысячы чалавек — беларусы. Сярод беларусаў іх удзельная вага склала 59 працэнтаў.

5. Па даных перапісу насельніцтва 1999 года, у рэспубліцы налічвалася 2,4 мільёна сямейных пар, у той час як па перапісу 1989 года — 2,6 мільёна.

Размеркаванне мужчын і жанчын ва ўзросце 16 гадоў і старэй па абласцях па стану ў шлюбе характарызуюцца наступнымі данымі:

| | Мужчыны тыс.чалавек | | | | | Жанчыны тыс.чалавек | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | усяго | у тым ліку | | | | Усяго | у тым ліку | | | |
| | | Знаходзяцца ў шлюбе | Ніколі не былі ў шлюбе | Заўдавелыя | Разведзеныя і тыя, хто разышоўся | | Знаходзяцца ў шлюбе | Ніколі не былі ў шлюбе | Заўдавелы | Разведзеныя і тыя, хто разышоўся |
| Рэспубліка Беларусь | 3623 | 2441 | 813 | 123 | 246 | 4286 | 2453 | 652 | 769 | 412 |
| Вобласці: | | | | | | | | | | |
| Брэсцкая | 531 | 373 | 112 | 18 | 28 | 619 | 375 | 88 | 108 | 48 |
| Віцебская | 499 | 335 | 107 | 18 | 39 | 598 | 335 | 84 | 119 | 60 |
| Гомельская | 547 | 372 | 114 | 19 | 42 | 663 | 375 | 99 | 120 | 69 |
| Гродзенская | 427 | 295 | 94 | 15 | 23 | 502 | 296 | 72 | 97 | 37 |
| г.Мінск | 615 | 390 | 162 | 16 | 47 | 728 | 396 | 146 | 92 | 94 |
| Мінская | 564 | 384 | 125 | 21 | 34 | 659 | 385 | 86 | 135 | 53 |
| Магілёўская | 440 | 292 | 99 | 16 | 33 | 517 | 291 | 77 | 98 | 51 |

6. Паводле даных перапісу 1999 года, 85 працэнтаў насельніцтва рэспублікі ва ўзросце 15 гадоў і старэй мелі законченую вышэйшую, сярэднюю і базавую адукацыю супраць 77 працэнтаў па перапісу 1989 года. Іх колькасць павялічылася з 6023 тысяч да 6892 тысяч, або на 14 працэнтаў.

Размеркаванне насельніцтва па ўзроўню закончанай адукацыі прадстаўлена наступнымі данымі:

| | Усё насельніцтва ва ўзросце 15 гадоў і старэй (тысяч чалавек) | На 1000 чалавек насельніцтва ва ўзросце 15 гадоў і старэй | Занятае насельніцтва (тысяч чалавек) | На 1000 занятых |
|---|---|---|---|---|
| Колькасць насельніцтва, якое мае закончаную адукацыю - усяго | 7995 | 989 | 4446 | 999 |
| у тым ліку: | | | | |
| вышэйшую прафесійную | 1134 | 140 | 881 | 198 |
| сярэднюю прафесійную | 1804 | 223 | 1329 | 299 |
| пачатковую прафесійную | 745 | 92 | 571 | 128 |
| сярэднюю агульную | 2116 | 262 | 1314 | 295 |
| базавую агульную | 1093 | 135 | 274 | 62 |
| пачатковую агульную | 1103 | 137 | 77 | 17 |

Пры перапісе 1999 года ўлічана 33 тысячы непісьменных ва ўзросце 15 гадоў і старэй, што складае 0,4 працэнта ў агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі гэтага ўзросту. У 1989 годзе такіх асоб было 165 тысяч, або 2 працэнты.

Сярод непісьменных асобы ва ўзросце 15—49 гадоў склалі каля 9 тысяч (27 працэнтаў), а ў насельніцтве данай узроставай групы іх доля — 0,2 працэнта і засталася на ўзроўні 1989 года. Гэта ў асноўным асобы, якія не мелі магчымасці наведваць школу з-за фізічных недахопаў ці хранічных хвароб.

Узровень адукацыі занятага ў эканоміцы насельніцтва вышэйшы, чым у сярэднім для ўсяго насельніцтва.

Сярод занятых маюць закончаную вышэйшую, сярэднюю і базавую адукацыю 98 працэнтаў супраць 90 працэнтаў у 1989 годзе. Доля асоб, якія маюць вышэйшую адукацыю сярод занятых, склала 20 працэнтаў, сярэднюю прафесійную (сярэднюю спецыяльную) 30 працэнтаў супраць адпаведна 14 працэнтаў і 22 працэнтаў у 1989 годзе.

За мінулыя дзесяць гадоў значна павысіўся ўзровень адукацыі сельскага насельніцтва. Калі ў 1989 годзе сярод сельскіх жыхароў ва ўзросце 15 гадоў і старэй доля асоб, якія мелі закончаную вышэйшую, сярэднюю і базавую адукацыю, складала 56 працэнтаў, то паводле даных перапісу 1999 года — 68 працэнтаў. Сярод гарадскіх жыхароў гэты паказчык павялічыўся з 89 працэнтаў да 93 працэнтаў.

7. Пры перапісе насельніцтва 1999 года атрымана інфармацыя аб крыніцах сродкаў існавання. Асобамі, якія апытваліся, адзначаліся ўсе названыя імі крыніцы, што ёсць на дату перапісу.

Размеркаванне насельніцтва рэспублікі па крыніцах сродкаў існавання прадстаўлена наступнымі данымі:

| Крыніцы сродкаў існавання | Усяго | У працэнтах да агульнай колькасці насельніцтва |
|---|---|---|
| Усё насельніцтва, тыс. чалавек | 10045 | x |
| Агульная колькасць названых насельніцтвам крыніц сродкаў існавання | 12096 | x |
| у тым ліку: | | |
| работа (акрамя работы ў асабістай падсобнай гаспадарцы) | 4443 | 44,2 |
| работа ў асабістай падсобнай гаспадарцы | 1014 | 10,1 |
| пенсія | 2465 | 24,5 |
| стыпендыя | 222 | 2,2 |
| дапамога, уключаючы дапамогу па беспрацоўю, а таксама іншы від дзяржаўнага забеспячэння | 731 | 7,3 |
| на ўтрыманні | 2978 | 29,6 |
| даход ад здачы ў наём або арэнду маёмасці. Працэнты па грашовых укладах, дывідэнды і зберажэнні | 21 | 0,2 |
| іншая крыніца | 222 | 2,2 |

З агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі назвалі адну крыніцу сродкаў існавання 8049 тысяч чалавек (80 працэнтаў), усяго працаздольнага насельніцтва 4762 тысячы (83 працэнты).

З асоб, якія назвалі адну крыніцу, 45 працэнтаў жыве за кошт заработнай платы, для 23 працэнтаў насельніцтва крыніцай сродкаў існавання з'яўляецца толькі пенсія, дапамога (уключаючы дапамогу па беспрацоўю), стыпендыя або іншы від дзяржзабеспячэння, 29 працэнтаў знаходзяцца на ўтрыманні бацькоў або іншых сваякоў (у асноўным вучні і дзеці дашкольнага ўзросту).

Колькасць асоб, якія маюць дзве крыніцы сродкаў існавання, склала 1927 тысяч чалавек, або 19 працэнтаў у агульнай колькасці насельніцтва. Гэта ў асноўным пенсіянеры, якія працуюць, а таксама асобы, якія сумяшчаюць сваю асноўную дзейнасць на рабоце з занятасцю ў асабістай падсобнай гаспадарцы, або атрымліваюць стыпендыю, дапамогу ад сваякоў або маюць дадаткова іншыя крыніцы.

Наяўнасць трох і больш крыніц сродкаў існавання назвалі 64 тысячы чалавек, што складае 1 працэнт насельніцтва. Не назвалі крыніц сродкаў існавання 5 тысяч чалавек.

У гэтым паведамленні прадстаўлена інфармацыя першых зводных сацыяльна-дэмаграфічных паказчыкаў па выніках распрацоўкі даных перапісу насельніцтва 1999 года.

Поўная распрацоўка матэрыялаў перапісу будзе ажыццёўлена на працягу 2000 года.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**



СПОРТ




Чэмпіянат свету па хакею сярод юніёраў у групе "Б" завяршыўся перамогай беларускіх хакеістаў у матчы са зборнай Францыі. Гэтай перамогай беларуская каманда заваявала права ўдзельнічаць у чэмпіянаце свету ў групе "А".

НА ЗДЫМКУ: зборная каманда Рэспублікі Беларусь — пераможца чэмпіянату свету ў групе "Б".

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

**СКАЧКІ Ў ВАДУ.** Нас заўсёды радуюць поспехі спартсменаў, якія прадстаўляюць Рэспубліку Беларусь на міжнародных стартах. Але не толькі па іх выніках можна меркаваць аб перспектывах спорту ў краіне. Асобую радасць і надзею адчуваем, калі перамогу атрымліваюць юныя таленты. Так, 11—12-гадовыя мінчане Вадзім Каптур, Барыс Дуко і Аляксей Гудзілін завявалі золата, серабро і бронзу ў германскім Кёльне на юнацкім Кубку "Post cup" па скачках у ваду. А іх старэйшыя таварышы Юрый Кавалевіч, Цімафей Гардзейчык і Аляксандр Лукашэвіч занялі ўвесь п'едэстал гонару.

Не адсталі і дзяўчаты. Даша Палянская і Юлія Лукша ў сваіх групах замацавалі за сабой "сярэбраныя" пазіцыі.

Другі радок турніру занялі юныя беларусы ў такім відовішчы, як сінхронныя скачкі. Віталь Сяргееў і Аляксандр Лукашэвіч і тут атрымалі "серабро".

У выніку — 1-е агульнакаманднае месца.

**ПЛАВАННЕ.** У Лісабоне завяршыўся чэмпіянат свету па плаванню на кароткай вадзе. Лідэрам беларускай зборнай стала 20-гадовая віцьбляянка Наталля Бараноўская. На яе рахунку сярэбраны і бронзавы медалі на дыстанцыі 400 і 200 метраў кролем. Зусім трошкі не дацягнулі да трэцяга месца нашы дзяўчаты ў эстафеце 4 х 50 вольным стылем. У выніку яны на чацвёртым радку турніру з паказчыкам 1.41.99. — гэта новы рэкорд краіны.

**АРМРЭСТЛІНГ.** У сталіцы Японіі Токіо завяршыўся 20-ты чэмпіянат свету па армрэстлінгу. Беларусь прадстаўлялі чатыры рукаборцы. Прыгожую перамогу атрымалі нашы спартсменкі. У катэгорыі да 70 кілаграмаў двухкратнай чэмпіёнкай стала Людміла Шастакова. У вазе да 80 кілаграмаў Маргарыта Смірнова ў барацьбе на левую руку заваявала сярэбраны медаль, а на правую — выйграла "золата". Сяргей Сяргель (85 кілаграмаў) і Алег Мацкевіч (80 кілаграмаў) занялі 4-е месца.

**БІЯТЛОН.** Трэці этап Кубка свету па біятлону нарэшце прынёс беларускай камандзе доўгачаканы медаль. У гонцы на 20 кіламетраў пранёсся па дыстанцыі Вадзім Сашурын. У складаных метэаўмовах ён 19 разоў дакладна папаў у цэль, і толькі адзін промах беларуса дазволіў французу Рафаэлю Пуарэ заняць першае месца. У выніку ў Вадзіма сярэбраны медаль.

Хочацца адзначыць поспех Ірыны Тананайка на дыстанцыі 15 кіламетраў. Усе 20 патронаў яна снайперскі даслала ў мішэнь. Апынулася на сёмай пазіцыі — выдатны вынік.

Каця МАЗАКОВА.



Вадзім САШУРЫН.

ЛЕПШЫЯ З 25

Каманда факультэта прыкладной матэматыкі Белдзяржуніверсітэта ў складзе чацвёртакурснікаў Сяргея СЦЯПАНЦАВА, Івана МІХНЕВІЧА, Канстанціна СЯМЁНАВА і другакурсніка Уладзіміра ТАНКОВІЧА (на здымку) выйшла ў паўфінал каманднага чэмпіянату свету па праграмаванню сярод студэнтаў. У чвэрцьфінале чэмпіянату, які прайшоў у Мінску на базе БДУ, прынялі ўдзел 25 каманд заходняга рэгіёна з вышэйшых навучальных устаноў Беларусі і Эстоніі.

І вось новая перамога — другое месца ў паўфінале, які *праходзіў у Санкт-Пецярбургу*. Фінал адбудзецца ў сакавіку 2000 года ў горадзе Арланда (ЗША).



ВЫСТАВЫ

У горадзе Эш-сюр Альзат — другім па велічыні ў герцагстве Люксембург адкрыта выстава фотработ, прысвечаная беларускай правінцыі. Дзеючыя асобы дзесяткаў фотасюжэтаў, якія экспануюцца, — жыхары невялікага горада Дзятлава, што на Гродзеншчыне.

Гэта выстава — вынік плённай работы двух люксембургскіх фотааматараў: Іва Басі і Рэнэ Гілена. Каб лепш спазнаць і зразумець беларусь, яны двойчы за свае сродкі наведалі Дзятлава. Таленавітыя фотаматары вырашылі правесці фотавыставу, каб пазнаёміць сваіх суайчыннікаў з жыццём і бытам жыхароў старажытнага горада, якому нядаўна споўнілася 500 гадоў.

У далейшым фотааматары Басі і Гілен мяркуюць прывезці выставу ў Брусель.

Іосіф ЗАЯЦ.

ЗДАРЭННІ

**У САМАЛЁЦЕ ЗНАЙШЛІ 20 000 ДОЛАРАЎ ЗША.** 20 555 даларaў ЗША былі знойдзены пагранічнікамі на днях пры даглядзе ў аэрапорце "Мачулішчы", што ў Мінскім раёне, транспартнага самалёта Іл-76 авіярэйса "Мінск — Тэгеран".

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, валюта была схавана ў палоцкай кабіне за спінкай крэсла борт-інжынера. Кантрабанда перададзена ў мытню, вядзецца разбор.

**ПА МІНСКУ ГУЛЯЮЦЬ ФАЛЬШЫВЫЯ "БАКСЫ".** 57 падробленых стодоларавых купюр канфіскавалі мінскія аператыўнікі. За апошні час гэта адна з самых буйных партый.

Як паведамілі ў аддзеле па эканамічных злачынствах Ленінскага РУУС Мінска, у ходзе правядзення аператыўна-пошукавых мерапрыемстваў каля універмага "Беларусь" у аўтамашыне "Фольксваген-Пасат" былі затрыманы двое мінчан. Крыху раней на міні-рынку на Партызанскім праспекце яны спрабавалі збыць каўказцам падробленыя стодоларавыя банкноты.

Па заключэнню экспертаў, канфіскаваныя фальшыўкі выраблены шляхам электраграфіі з выкарыстаннем капіравальна-размнажальнай тэхнікі. На вока даволі складана вызначыць іх несапраўднасць. На купюрах "новага ўзору" прысутнічаюць усе неабходныя "элементы абароны" амерыканскай валюты.

Усе яны датаваны 1996 годам выпуску.

Што тычыцца затрыманых, то зараз яны чакаюць рашэння свайго лёсу ў ізалятары. Ім пагражае ад 5 да 15 гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці.

Сяргей ЛОСІК,
прэс-цэнтр ГУУС Мінгарвыканкама.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## ФІРМЕННЫ ГАНДАЛЬ НА БЕЛАРУСІ

На пачатку снежня ў Мінску па вуліцы Куйбышава расчыніў дзверы другі ў гэтым месяцы і 30-ты па ліку ў рэспубліцы фірменны магазін тэлевізараў Віцебскага вытворчага аб'яднання "Віцязь". Ва ўрачыстым адкрыцці бралі ўдзел генеральны дырэктар аб'яднання Пётр Дземянчонак і намеснік міністра прамысловасці краіны, які курыруе радыётэлевізійную галіну, Анатоль Русецкі.

Усё больш і больш жыхароў Беларусі аддаюць перавагу айчыннаму тэлевізару маркі "Віцязь". Па якасці і дызайну ён не саступае замежным аналагам. Цана ж яго ў рэспубліцы значна меншая за іншыя. Дарэчы, новы фірменны магазін "Віцязь" у Мінску размешчаны недалёка ад свайго сабрата і аднагачасова канкурэнта — магазіна вытворчага аб'яднання "Гарызонт". Як заўважыў намеснік міністра А. Русецкі, такое суседства не азначае жорсткую канкурэнцыю, а хутчэй спаборніцтва, закліканае садзейнічаць якаснаму росту як "Віцязя", так і "Гарызонта". Сёння каля 60 працэнтаў тэлевізараў, зробленых у Віцебску і Мінску, ідуць на экспарт, як правіла, у Расію, Украіну, Малдову, Казахстан, краіны Балтыі.

Свае фірменныя гандлёвыя кропкі прадпрыемства "Віцязь" мае і ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Чарапаўцы. Зараз з заводскага канвеера сходзіць каля 30 мадэляў маркі "Віцязь". Па ўсёй краіне працуе добра адладжаная сетка сервіснага абслугоўвання віцебскіх тэлевізараў. Сёлета тэлевізару "Віцязь" прысуджана дзяржаўная прэмія якасці ІСО-9001, так званы міжнародны сертыфікат якасці.



Сяргей САБАДАШ.
Фота Віктара СТАВЕРА.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# ЦЭНТР ГІСТАРЫЧНАЙ ДУМКІ

Зараз у калектыве налічваецца амаль 120 чалавек, з іх больш за 90 навуковых супрацоўнікаў, у тым ліку 13 дактароў і 51 кандыдат навук. Восем інстытуцкіх супрацоўнікаў маюць вучонае званне прафесара, 11 — старшага навуковага супрацоўніка і дацэнта. У інстытуце працуюць два акадэмікі НАН Беларусі: Іларыён Ігнаценка (1974) і Міхась Касцюк (1996).

Кола навукова-даследчай праблематыкі інстытута вызначаецца ў першую чаргу рэспубліканскімі комплекснымі праграмамі, якія аб'ядноўваюць найважнейшыя тэмы даследаванняў. Гэта, напрыклад, рэспубліканская комплексная праграма фундаментальных даследаванняў у галіне гуманітарных навук "Гісторыя станаўлення і развіцця беларускай народнасці і нацыі. Нацыянальныя працэсы і міжнацыянальныя адносіны на сучасным этапе", якая выконвалася ў 1990—1995 гадах, а таксама дзяржаўная праграма "Нацыянальная гісторыя Беларусі", тэрмін выканання якой — 1995—2000 гады. У выкананні названых праграм інстытут з'яўляецца галаўной арганізацыяй, выступае ў якасці каардынатара навукова-даследчых прац гісторыкаў з вышэйшых навучальных устаноў і іншых арганізацый гістарычнага профілю.

Вынікі, атрыманыя ў ходзе выканання гэтых праграм, іншых тэм і планавых заданняў, знайшлі сваё ўвасабленне ў шэрагу абагульняючых і манаграфічных прац, у зборніках, брашурах і артыкулах. За перыяд з 1985 да 1998 года супрацоўнікамі інстытута выдадзена звыш 250 адзінак кніжнай прадукцыі. У 1986 годзе завершана публікацыя калектыўнай працы "Партийное подполье в Белоруссии. Страницы воспоминаний" (у 3 тамах).

Сярод найбольш значных публікацый інстытута ў 90-я гады трэба адзначыць даследаванне "Нарысы гісторыі Беларусі" ў дзвюх частках, апублікаваных адпаведна ў 1994 і 1995 гадах. У "Нарысах" упершыню выкладзена гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да сярэдзіны 90-х гадоў XX стагоддзя з нацыянальна-дзяржаўнага пункту гледжання, заснаванага на прызнанні факта шматвяковага існавання беларускага этнасу як суб'екта гісторыі. Пераасэнсаваны гістарычны шлях беларускага народа, у тым ліку праблемы этнагенезу, станаўлення і развіцця дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, узаемадносін з суседнімі краінамі і народамі. Адноўлена гістарычная праўда аб многіх падзеях і дзеячах беларускага мінулага. Адлюстраваны маладаследаваныя старонкі гісторыі нацыянальнага руху, грамадска-палітычнага жыцця, беларускай дыяспары і іншыя. Паказаны супярэчлівы характар развіцця сучаснага грамадства. У Рэспубліцы Беларусь і ў Расійскай Федэрацыі на "Нарысы" надрукавана больш за 10 станоўчых рэцэнзій.

У канцы 1997 года выйшла фундаментальная праца "Археалогія Беларусі. Т. І. Каменны і бронзавы вякі". Толькі што ўбачыў свет другі том "Жалезны век". На вялікім археалагічным матэрыяле ўпершыню дадзена абагульняючая характарыстыка развіцця першабытнага грамадства Беларусі ў каменным, бронзавым і жалезным вяках.

Адначасова з вышэйадзначанай кнігай выйшла ў свет абагульняючая фундаментальная праца "Гісторыя сялянства Беларусі. Т. І. Ад старажытнасці да 1861 г.", дзе асветлены працэсы станаўлення і развіцця эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага жыцця сялянства Беларусі да сярэдзіны XIX стагоддзя. Комплексна, на падставе шырокай гістарыяграфічнай базы і вялікай колькасці крыніц, прааналізавана эвалюцыя сялянскай гаспадаркі, землеўладання і землекарыстання, павіннасцяў, запрыгоньвання, рыначных адносін, супярэчнасцей і канфліктаў у беларускай вёсцы, а таксама культуры і духоўнага абліччa сялянства.

У шэрагу калектыўных прац і манаграфічных выданняў у 90-я гады знайшлі таксама адлюстраванне пытанні паходжання і рассялення дрыгавічоў (П. Лысенка) і крывічоў (Г. Штыхаў), старажытнага насельніцтва іншых рэгіёнаў Беларусі, узровень іх гаспадарчага і культурнага развіцця (Э. Зайкоўскі, Ю. Заяц, Л. Дучыц, В. Ляўко, І. Ганецкая, Т. Каробушкіна, А. Мядзведзеў, М. Чарняўскі, В. Кудрашоў, В. Ліпніцкая, В. Шаблюк, С. Тарасаў, А. Квяткоўская)...

Значная ўвага надавалася манаграфічным даследаванням па гісторыі сялянства Беларусі ў перыяды сярэдневякоўя і капіталізму. Былі грунтоўна асветлены праблемы запрыгоньвання сялян (М. Спірыдонаў), іх становішча ў XVI —XVIII стагоддзях (П. Лойка, В. Голубеў), сацыяльна-эканамічнае развіццё вёскі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя (В. Панюціч), сялянскі рух у Беларусі (У. Крук); сучаснае становішча аграрнага сектара краіны (В. Саковіч).

У гэты перыяд з'явіліся працы, у якіх раскрываўся праблемны характар Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, асвятляліся пытанні пераходу да самавызначэння ў першыя гады савецкай улады (І. Ігнаценка), аналізаваўся стан свядомасці салдат Заходняга фронту (М. Смальянінаў).

Уладзімір НАВІЦКІ,
кандыдат гістарычных навук.

Працяг.
Пачатак у № № 43, 44, 46, 48, 50.

ПАДЗЕЯ: ТЭАТРУ «ЗЬНІЧ» 10 ГАДОЎ



Галіна ДЗЯГІЛЕВА.

Васіль ЖУКОВІЧ

# ЦУД

*Акраверш*

**Галіны Дзягілевай голас**
**Адметны ў мностве галасоў,**
**Лагодны, будзіць сэрца голад**
**І цешыць музыкаю слоў.**
**На сцэне — "Зьніч", ён паэтычны,**
**А паэтычны — не практычны,**
**Дзіця, прывыклае дарыць**
**Заміж таго, каб браць дары.**
**Я, ўзрушаны, шапчу Тварцу:**
**"Галіна Дзягілева — цуд:**
**І чысціня, і дасканаласць!**
**Любоў на свеце не сканала,**
**Яна — багіня апантаных,**
**Вядома, цуды — ад яе.**
**Артыстка, я, зачараваны,**
**Цалую голас ваш ціхмяны.**
**У ім такая моц трымціць!**
**Дай Бог вам шчасце — век тварыць!"**

ПРАГНОЗЫ

# ЦІ БУДЗЕ КАНЕЦ СВЕТУ?

Вось і надышоў канец стагоддзя, блізіцца канец тысячагоддзя... Заўсёды ў такія пераходныя моманты чалавецтва імкнецца падвесці нейкія вынікі сваёй дзейнасці, паспрабаваць зазірнуць у будучыню, зразумець свае магчымыя перспектывы. З якім набыткам падышлі мы да мяжы стагоддзяў? Які лёс усіх нас чакае? На гэтыя і іншыя пытанні паспрабавалі адказаць прадстаўнікі беларускай інтэлектуальнай эліты падчас праведзенага ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны "круглага стала" пад назвай "Канец стагоддзя — канец свету?". Даная імпрэза была арганізавана сумеснымі намаганнямі Польскага інстытута ў Мінску, рэдакцыі часопіса "Фрагмэнты" і Скарынаўскім цэнтрам. У пасяджэнні прынялі ўдзел вядомыя беларускія філосафы, культуролагі, філолагі, якія ўсебакова і надзвычай зацікаўлена абмяркоўвалі пытанне, зафіксаванае ў назве мерапрыемства.

З асноўным дакладам выступіў галоўны рэдактар польскага культуралагічнага часопіса "Краснагруда" Кшыштаф Чыжэўскі, якога вядучы "круглага стала" філосаф Ігар Бабкоў прадставіў як аднаго з найбуйнейшых замежных спецыялістаў па праблеме канца свету. Шаноўны польскі госць адзначыў, што ў сучасны перыяд канец свету абсалютна не выключаны, бо яшчэ шмат дзе ёсць нямала неадукаваных, нявыхаваных людзей, своеасаблівых сучасных "варвараў, паганцаў", якія не ведаюць сваёй гісторыі, мовы, культуры, не паважаюць свае традыцыі, звычаі, абрады. Усё гэта стварае ў грамадстве сітуацыю хаосу культуры, што, безумоўна, робіць досыць праблематычнымі шанцы чалавецтва на выжыванне ў бліжэйшай перспектыве.

На "круглым стале" былі выказаны розныя погляды, меркаванні, якія часам мелі дыяметральна супрацьлеглы характар. Але, як вядома, менавіта ў пазітыўных дыскусіях, сяброўскіх спрэчках можа нарадзіцца і нараджаецца ісціна.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ.**

У ЯПОНІІ ў школьных праграмах ёсць спецыяльныя ўрокі замілавання прыродай. Нашы дзеці, на жаль, не маюць такой раскошы, але ж прырода Беларусі, па цвёрдаму перакананню майстра лясной скульптуры мінчанкі Кацярыны Новікавай, намнога багацейшая.

Кацярына Фёдараўна — аўтар шматлікіх работ з прыроднага матэрыялу — фларыстыкі і цудоўных зімовых букетаў. Яна з кагорты тых нямногіх людзей, якія, нягледзячы на свой сталы ўзрост (Кацярына Фёдараўна ўжо размяняла восьмы дзесятак), не страцілі ўмення глядзець на свет закаханымі вачыма дзіцяці і бачыць незвычайнае ў звычайным. Пэўна, так і павінна быць, бо кожны з нас, як некалі вельмі слушна заўважыў Антуан дэ Сент-Экзюпеexactly, таксама калісьці быў дзіцём, толькі мала хто памятае аб гэтым...

Кацярына Фёдараўна доўгія гады працавала ў гарадскіх і піянерскіх лагерах, на гарадской станцыі юннатаў, чытала лекцыі для настаўнікаў на курсах удасканалення іх прафесійнага майстэрства. Ёй было што ім сказаць.

Кацярына Новікава — аўтар кніг "Мы — майстры-ўмельцы", "Натхненне". Яна ўдзельнік шматлікіх гарадскіх і рэспубліканскіх выстаў лясной скульптуры, фларыстыкі, мастацтва ікебаны. Яе персанальная выстава праходзіла ў галерэі "Медэя" ў Цэнтральным Доме афіцэраў.

Кацярына Фёдараўна — прыроджаны педагог, хоць у яе і няма спецыяльнай адукацыі. Дзеці, якім



# ІТАЛЬЯНСКІЯ КАНІКУЛЫ

**Штогод вучні Дзятлаўскай школы-інтэрната адпачываюць у Італіі. Мінулай зімой цэлы месяц яны жылі ў Рыме. Там сустракалі свята Божага Нараджэння, Новы год, там правялі калядныя канікулы. Суправаджала дзяцей выхавальніца інтэрната Надзея Васько. Паводле яе слоў, італьянцы вельмі гасцінныя, душэўныя людзі. Трэба было бачыць, як хутка да іх прывыкалі дзеці! Як добра, цёпла было ім у італьянскіх сем`ях.**

— Надзея Фёдараўна, вам давялося сустракаць у Італіі свята Божага Нараджэння. Якія гэта пакінула ўражанні?

— Святкаванне праводзіцца вельмі ўрачыста. Напярэдадні, як правіла, у кожным доме прыбіраюць ёлку і з густам афармляюць сімвалічны куток. Ставяць цацачныя яслі, авечак, падсцілаюць сена, кладуць ляльку-немаўлятку. Усё гэта сімвалізуе нараджэнне Хрыста. Ва ўрачыста-святочным убранні вуліцы, плошчы і вітрыны магазінаў. На свята там прынята дарыць падарункі. Я была прыемна здзіўлена, калі суседкі, сяброўкі маёй сеньёры-гаспадыні, пранікнёна віншавалі і яе, і мяне. Мне давялося сустракаць Новы год у кампаніі пажылых людзей. Спачатку была дома святочная вячэра, а затым пайшлі ў госці. Там арганізавалі цікавую гульню накшталт нашых карт. І вось неўпрыкмет надышла поўнач. Гаспадары кватэры запрасілі паспрабаваць салодкіх пачастункаў, каб жыццё было салодкім. А вось выпіваюць там мала. Уся наша кампанія выпіла за вечар усяго бутэльку шампанскага. І ва ўсіх быў вясёлы, светлы настрой.

— На Бога спадзявайся, а сам... Чым былі запоўнены рабочыя дні?

— Вучобай. Пры касцёле ў нас быў свой клас, дзе вучні займаліся. Раніцай іх прывозілі сеньёры, у якіх яны жылі. А пад абед забіралі. Пасля абеду і ў вячэрні час праводзіліся экскурсіі ў Ватыкан, па Рыму або паездкі да мора.

— Няведанне італьянскай мовы не было вялікай перашкодай?

— Дзеці параўнаўча хутка засвойваюць італьянскую мову. Пабываўшы там некалькі разоў, размаўляюць ужо без перакладчыкаў.

У час летніх канікулаў вучні інтэрната зноў ездзілі ў гэтую казачную краіну. А нядаўна Дзятлава наведалі італьянцы з горада Чэрыньёла. Сярод іх — святар Мікола Манаколі, Ганна Марынара, Анжэла Санкт-Анжэла, Віта Паняб`янка і іншыя. Менавіта ў іх сем`ях жывуць дзеці ў час аздараўленчых паездак.

Замежных гасцей хлебам-соллю сустракалі вучні і настаўнікі. Былі тут радасныя абдымкі, хвалюючыя ўспаміны, шчаслівыя слёзы... Многія дзеці сталі для італьянцаў, як родныя, іх чакаюць, іх прыезд — радасць.

Госці цікавіліся ўмовамі жыцця ў інтэрнаце, арганізацыяй навучання і выхавання, работай гурткоў і г. д. Адбыўся святочны канцэрт. Дзеці спявалі песні, танцавалі, жартавалі. Усе весяліліся ад душы.

Госці азнаёміліся са славутымі мясцінамі Дзятлаўшчыны, пабывалі ў Навагрудку, на радзіме паэта Адама Міцкевіча, наведалі музей. Пасля накіраваліся ў сталіцу нашай дзяржавы — Мінск. Італьянцам спадабаліся простыя і працавітыя беларускія людзі.

Нядаўна група вучняў інтэрната чарговы раз накіравалася ў Італію.

**Іосіф ЗАЯЦ.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

Беларускі вучоны Уладзімір Снапкоўскі ў ліку тых, каго сёлета вызначыў Міжнародны біяграфічны цэнтр, што ў Кембрыджы, як асобу, чыя дзейнасць цікавіць міжнародную супольнасць.

Гэта тым больш адметна, што доктар гістарычных навук Уладзімір Снапкоўскі займаецца навучаннем будучых дыпламатаў у БДУ, даследуе развіццё нацыянальных і міжнародных адносін.

**Ірына ГАЙ.**

СПАРТСМЕНКА XX СТАГОДДЗЯ

# ЛЕАНІД БАРТКЕВІЧ: «ВОЛЬГА КОРБУТ – АБСАЛЮТ…



Вольга КОРБУТ.

**Знакамітая беларуская гімнастка, чэмп… ёнка свету і Алімпійскіх гульняў Воль… Корбут занесена ў спіс лепшых спартсмена… XX стагоддзя ў класіфікацыі італьянска… агенцтва АНСА.**

**А карпарацыя Бі-Бі-Сі здымае фільм пр… выдатную беларускую гімнастку. У Гродн… дзеля гэтага знаходзілася група брытанск… тэлежурналістаў. Матэрыял, зняты ў род… ным горадзе гімнасткі, будзе выкарыстан… для стварэння дакументальнага фільма, я… Бі-Бі-Сі пакажа ў рамках бібліяграфічна… цыкла перадач пра выдатных людзей.**

***Корбут і Барткевіч жанатыя больш за дваццаць гадоў. І цяпер разам, хаця журналісты, здаецца, не адзін раз іх разводзілі. "Мы проста не думаем пра гэта. Мы жывём, мы проста сябры. Гэта самае галоўнае".***

На поўначы Атланты у іх ёсць рэзідэнцыя (менавіта так называе свой дом Леанід Барткевіч): "Вельмі добрая, з соснамі, баскетбольнай пляцоўкай, басейнам". Сямейны бізнес апіраецца на фірму "Вольга Корбут Інтэрпрайзіс", якая працуе ў розных сферах. І яе фінансавае становішча дазваляе Барткевічу быць свабодным мастаком — у літаральным сэнсе.

Вольга Корбут праз мужа перадала прывітанне ўсім, хто яе ведае ў Беларусі. Зараз яна з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам усіх федэрацый гімнастыкі свету, абрана "ВВС" лепшай спартсменкай стагоддзя, уваходзіць у дзесятку лепшых спартсменак стагоддзя ў Амерыцы. Вольга цяпер вельмі заняты чалавек. "Зараз усе заклапочаны сустрэчай новага стагоддзя. Як сказаў Спілберг, давайма расцягнем гэтую сустрэчу на год".

"Вольга — абсалютна разняволены і прамы чалавек. І вельмі добры эканаміст па сваёй сутнасці. Мяне нямногія ведаюць у Амерыцы, а Вольгу — усе. Таму, калі мы прыехалі ў гэтую краіну, яна была як рыба ў вадзе. Вольга была намнога, намнога больш каштоўная для Амерыкі і больш папулярная там, чым на радзіме. Я тады нават і не чакаў, што Корбут мае такую папулярнасць!" — прызнаецца Леанід.

Леанід Барткевіч добра адчувае сябе ў Амерыцы: "Цудоўнае жыццё, ніякіх праблем у дробязях". Але шчыра прызнаецца, што калі прыходзіць свята і хочацца з некім выпіць ды пагутарыць — дык і няма з кім. "І вось тады ты сядаеш і плачаш... Я кажу гэта як просты чалавек. Радзіма ёсць Радзіма. Калі прызямляўся самалёт і я пабачыў гэтыя бярозкі — гэта ўсё... Я проста не тое, што пла-

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



*Сустрэча арганізатараў і донараў конкурсу з яго ўдзельнікамі. На заднім плане злева: Яўген ВАПА, Пётр МАРЦІНЯК, Гражына КАПІНЬСКА, Марцін РЭМБАЧ і Алег ЛАТЫШОНАК.*

**Фота Ганны КАНДРАЦЮК.**

# МАЛЫЯ ГРАНТЫ — ВЯЛІКАЯ СПРАВА

На аб'яўлены Цэнтрам грамадзянскай адукацыі Польшча — Беларусь конкурс на малыя гранты для няўрадавых арганізацый і таварыстваў, якія дзейнічаюць на карысць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, паступіла 36 праектаў ад 20 арганізацый. 17 лістапада былі аб'яўлены вынікі конкурсу і падпісаны дамовы, а ў кавярні "Тэхнічная" ў Беластоку адбылася сустрэча ўдзельнікаў конкурсу з яго арганізатарамі і донарамі.

У выніку конкурсу фінансавую падтрымку агульнай велічынёю больш за 100 тысяч злотых атрымалі 29 праектаў 18 арганізацый. Старшыня ЦГА Польшча — Беларусь Марцін Рэмбач заўважыў, што амаль усе праекты будуць выконвацца выключна беларускімі суполкамі, што красамоўна сведчыць пра сітуацыю на Беласточчыне, дзе адносіны паміж нацыянальнымі меншасцямі і большасцю грамадства фарміруюцца на прынцыпе палярызацыі асяроддзяў. Толькі чатыры праекты маюць польска-беларускі характар: мастацкае згуртаванне "Карткі" выпусціць нумар аднайменнага часопіса, прысвечанага беларускай літаратуры, а разам з БАСам наладзяць канцэрт "Народнага альбома"; той жа БАС разам з польскімі арганізацыямі "Маладыя дэмакраты" і "Маладыя кансерватары" наладзяць у Польшчы курсы для беларускіх няўрадавых арганізацый, а аддзел Беларускага саюза ў Гайнаўцы будзе весці дыскусійны форум аб справах горада. Гражына Капіньска — кансультант Фонду Форда, галоўнага донара конкурсу, падкрэсліла, што амерыканскаму спонсару залежыць, каб нацыянальныя меншасці будавалі сваю тоеснасць і прытым інтэграваліся з большасцю. Адсутнасць польска-беларускіх праектаў занепакоіла таксама Пётра Марцiняка — шэфа фонду "Польская праца" і заадно старшыню Праграмнай рады ЦГА Польшча — Беларусь. Выказаў ён таксама задавальненне, што, дзякуючы конкурсу, беларуская меншасць у Польшчы будзе мець крыху лепшыя ўмовы дзеяння.

У сённяшняй матэрыяльнай сітуацыі беларускіх суполак, якія ў асноўным карыстаюцца міністэрскімі — і радзей самаўрадавымі — датацыямі, кожная дадатковая крыніца фінансавання мае вялікае значэнне. Гранты, прыдбаныя кіраўніцтвам ЦГА Польшча — Беларусь, дазволяць ажыццявіць шэраг цікавых ініцыятыў у нашым асяроддзі. Напрыклад, у Дубічах-Царкоўных у будынку старой школы паўстане рэгіянальны музей беларускай культуры, дзіцячы хор "Лісічкі" з Ласінкі выпусціць аўдыёкасету з запісам праваслаўных калядак, а Беларускае асветнае таварыства будзе ладзіць інтэграцыйныя мерапрыемствы для польскіх і беларускіх дзяцей у школе № 11 у Беластоку. Бацькоўскі камітэт дзіцячага садзіка № 14 у Беластоку рэалізуе праект "Ад абраднасці да тоеснасці", у ходзе якога бацькі, дзеці і настаўнікі будуць ставіць фальклорныя пастаноўкі, а Беларускае аб'яднанне студэнтаў выпусціць, між іншым, кнігу Васіля Сакоўскага "Гісторыя маёй мясцовасці", кампакт-дыск Алеся Камоцкага і касету рок-гурту "Кальян" з Гродна. Грантамі пакарыстаецца таксама наша рэдакцыя. Прызначаныя нам грошы дазволяць паўгода высылаць дзевяноста экземпляраў "Нівы" ў Беларусь і надрукаваць кнігу "Бежанства". "Зорка", у сваю чаргу, пашырыць формулу зорчынай праграмы і супольна з Беларускім саюзам правядзе конкурс "Наш клас".

У рамках раздадзеных грантаў будзе ажыццяўляцца шмат іншых асветных, культурных, грамадзянскіх і выдавецкіх ініцыятыў. Як заявіў праграмны дырэктар ЦГА Польшча — Беларусь Яўген Вапа (ён і старшыня Беларускага саюза ў РП), ад вынікаў сёлетняга конкурсу будзе залежаць поспех пошукаў спонсараў для беларускай дзейнасці ў наступных гадах.

**Віталь ЛУБА.**

("Ніва").

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" і паважаны спадар Яўген Лецка!**

Я вельмі ўдзячная вам за газету. Атрымліваю яе з 1994 года. За гэты час яшчэ лепш вывучыла сваю беларускую мову, якую вельмі люблю, і радзіму сваіх дзядоў і бацькоў. Мне пашчасціла жыць у Беларусі ў Магілёўскай вобласці — Круглянскі раён, вёска Цяцерына. Я ўсё памятаю. А зараз мне 73 гады, і я вельмі хворая. Баюся, што не дажыву да 2000 года. Яшчэ раз дзякую за ўсё добрае. Я ганаруся сваёй Беларуссю. Жывіце доўга і шчасліва. З наступаючым 2000 годам!

**З павагай**

**Пелагея БАРАВІКОВА.**

10.XII.1999 года.

***P.S.** Калі маё пісьмо атрымаеце да выпуску апошняга нумара, прашу надрукаваць яго змест. Хай чытачы даведаюцца, што жыла такая беларуска.*

Украіна, г. Мелітопаль.

* * *

Маё прозвішча — Дарафей Залатка. Вывучаю беларускую мову ва універсітэце Марыі Кюры Складоўскай у горадзе Любліне. Ёсць у мяне да вас просьба — дасылаць мне газету "Голас Радзімы".

**АД РЭДАКЦЫІ.** Мы вельмі рады нашаму новаму зацікаўленаму чытачу ў Польшчы. Будзем спадзявацца на далейшае творчае супрацоўніцтва.

# ДЗЕЦІ І ВАЙНА

Нядаўна ў даўгаўпілскім выдавецтве "1АВ" убачыла свет кніга прафесара Даўгаўпілскага універсітэта, доктара педагогікі Людмілы Цімошчанкі "Дзеці і вайна". Людміла Мікалаеўна — старшыня Даўгаўпілскага аб'яднання былых вязняў-дзяцей фашысцкіх канцлагераў (у аб'яднанні нямала і беларусаў) сама прайшла праз пекла "Саласпілса". І зараз пра свой боль, пра цяжкія ўспаміны аб тым страшным часе яна распавядае на старонках гэтай кнігі. Вось як гаворыць аб сваім творы сам аўтар: "Нягледзячы на тое, што сёння аб вайне напісаны тысячы кніг, яны не могуць змясціць у сабе і малую частку таго, што перажыта. Я лічу, што людзі павінны чытаць такія кнігі. Асабліва моладзь. Гэта ўрокі гісторыі. Такія жахі больш не павінны паўтарыцца. Акрамя таго, зараз нярэдка прыходзіцца сутыкацца з фальсіфікацыяй гісторыі, калі ка'ты раптам аказваюцца амаль ці не ў ролі ахвяр".

Л. Цімошчанка па-мацярынску клапоціцца аб усіх сябрах свайго аб'яднання, чым можа, дапамагае ім. Яна хадайнічае аб тым, каб былыя вязні-дзеці фашысцкіх канцлагераў як грамадзяне Латвіі, так і тыя, у каго няма грамадзянства, мелі аднолькавае правы на льготы.

Л. Цімошчанка з'яўляецца аўтарам шэрагу падручнікаў для пачатковых школ, іншых кніг.

Нядаўна Людміла Мікалаеўна адзначала свой юбілей. З гэтай шчаслівай нагоды яе шчыра віншавалі сябры беларускага таварыства "Уздым" і супрацоўнікі Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

Латвія.

СВЯТОЧНАЯ АНКЕТА

**Уладзімір МЯЛЕШКА,**
***старшыня Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма":***

1. Неаспрэчны факт: XX стагоддзе прынесла з сабой больш важных падзей і перамен, чым любое іншае стагоддзе сусветнай гісторыі. І ў шэрагу падзей, што вызначылі лёсы многіх краін, у тым ліку і Беларусі, несумненна, Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года ў Расійскай імперыі. Сёння, праўда, адбываецца спроба пераглядзець гістарычныя акцэнты. Але гэта, я ўпэўнены, толькі даніна палітычнай "модзе". Ніхто ўсур'ёз не можа адмаўляць, што менавіта ў выніку рэвалюцыі беларускі народ атрымаў права на дзяржаўную самастойнасць. Спрачаюцца: хтосьці аддае перавагу БНР, большасці сучаснікаў бліжэй БССР. Але ж да вышэйназваных дзяржаўных утварэнняў беларускі народ прыйшоў праз упартую барацьбу і жаданне жыць у суверэннай краіне. У гістарычна пераломныя 90-гады адбылося тое, чаго ніхто не чакаў: раптоўна, неўспадзеўкі развалілася дзяржава, што займала 1/6 частку нашай планеты. Беларусы, як і іншыя народы былога Саюза, сталі на шлях стварэння краіны XX стагоддзя. Гэты шлях аказаўся больш круты і цярністы, чым чакалі. І тут няма нічога дзіўнага. Іван Тургенеў гаварыў пра імгненні пералому ў чалавечым жыцці, калі мінулае памірае і зараджаецца нешта новае: "Гора таму, хто не ўмее іх адчуваць, — і ці ўпарта прытрымліваецца мёртвага мінулага, ці да часу хоча выклікаць да жыцця тое, што яшчэ не выспела". Прыслухаемся да гэтага выказвання.

2. І таму ў працяг думкі хацелася б сказаць, што ў наступнае стагоддзе нам варта захапіць мудрасць продкаў і лепшыя здабыткі сучаснікаў. А пакінуць у мінулым усё тое, што перашкаджае нам "людзьмі звацца".

3. Працуючы з замежнымі суайчыннікамі, міжволі задумваешся пра значэнне слова "беларус". Што ж азначае быць беларусам сёння? Для жыхароў іншых мясцін гэта тыя, хто жыве на тэрыторыі пад назвай "Беларусь". Але ж ёсць і больш шырокі сэнс. Я — беларус, славянін, еўрапеец.

Беларусам сёння даводзіцца вырашаць многія праблемы. Гэта жывы працэс, ён актыўна будзе займаць нас на працягу жыцця цэлага пакалення. Рэцэпт, па якім мы павінны дзейнічаць, не новы, апрабаваны неаднойчы: трэба згуртавацца і ўзяцца за працу закасаўшы рукавы. У гэтым працэсе ёсць месца і нашым замежным суайчыннікам. Трэба толькі памятаць: што б мы ні рабілі і як бы ні рабілі, хуткіх і танных рашэнняў не будзе. А год, нават калі ён і 2000, — толькі крок на вялікім шляху, назва якому XXI стагоддзе.

У НЬЮ-ЁРКУ

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЦЁ Ў БРУКЛІНЕ

Адбылося пасяджэнне Парафіяльнай рады Катэдральнага сабора Св. Кірылы Тураўскага. З ініцыятывы Асацыяцыі паляпшэнне раёна Борум Гіл, дзе знаходзіцца сабор, у лютым месяцы (прыкладная дата — 27-га лютага) плануецца правесці Беларускі фестываль. Ён улучыў бы ў сябе агляд сабора і вялікую азнаямляльную праграму аб беларускай грамадзе ў Амерыцы, культуры і гісторыі беларусаў. Амерыканскі бок бярэцца забяспечыць прыход наведвальнікаў і ўвагу з боку прэсы, беларускі бок мусіць дэтальна распрацаваць праграму, якая ў цікавай і разнастайнай форме азнаёміла б амерыканцаў з беларускай культурай. Ужо ёсць шэраг прапаноў адносна яго правядзення, у тым ліку паказ беларускіх строяў, выстава беларускіх кніг і касет з беларускай музыкай.

**"Весткі й Паведамленьні".**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**У Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей звярнуўся прэзідэнт Іудзейскага рэлігійнага аб'яднання Беларусі Ю. Дорн з просьбай дапамагчы ў пошуку родных Меера Левітануса, які жыве ў Ізраілі. Адна са спроб дапамагчы — пошук праз газету.**

У чэрвені 1942 года, у час знішчэння нямецка-фашысцкімі акупантамі Друйскага гета ў Браслаўскім раёне, Меер Левітанус разам з маці змог выратавацца ад забойцаў. У 1946 годзе яны выехалі ў Ізраіль. Два гады назад маці пана Левітануса памерла.

Увесь час сям'я шукала родную сястру Меера, якая ў час пагрому была выратавана дзвюма мясцовымі манашкамі. У 1944 годзе гэтую дзяўчынку (на той час Хаі Левітанус было 10 гадоў) бачылі некалькі жыхароў пасёлка Міёры, які знаходзіцца за 20 кіламетраў ад Друі. Далейшы лёс дзяўчынкі, на жаль, невядомы.

Неаднаразовыя спробы сям'і Левітанус знайсці дзяўчынку праз Міжнародны Чырвоны Крыж не мелі поспеху. Таму пан Меер Левітанус звяртаецца да афіцыйных органаў Беларусі з просьбай аб садзейнічанні ў пошуках яго сястры Хаі Левітанус, 1934 года нараджэння. З гэтай жа просьбай звяртаемся і да чытачоў "Голасу Радзімы".



З БУДУЧАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ РЭПРЭСІРАВАНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

# ПАД СТРАХАМ УСЁ ЖЫЦЦЁ

*Гутарка Леаніда МАРАКОВА з паэтам Паўлам ПРУДНІКАВЫМ*



**Узрост дае сябе адчуць: усё ж 89-ты год ідзе. Летам Павел Пруднікаў аслеп. Раней амаль перастаў чуць... Але калі я ўвайшоў у яго пакой, з парога сустрэла бадзёрае: "Маракоў!.. Новы верш магу расказаць..."**

**"Сёння 24 чэрвеня 1999 года, — сказаў я ў мікрафон для праверкі запісу і гучна звярнуўся да гаспадара (трэба сказаць, што дапамагала П. Пруднікаву пачуць мяне яго малодшая дачка Ніна Паўлаўна).**

**Леанід Маракоў:** Павел Іванавіч, добры дзень. Як новы верш называецца?

**Павел Пруднікаў:** "Незабыўнае". Верш дакументальны, праўдзівы. У ім расказваецца, як у адным з сібірскіх канцлагераў вязні сустракалі першы дзень вайны, 22 чэрвеня 1941 года. Тады я сядзеў галодны і знясілены ў кандзеі (штрафны ізалятар. — **Л. М.**). Нас, палітычных, пачалі зганяць у адзін барак (дагэтуль мы жылі разам з крымінальнікамі). Па ўказанні зверху да знішчэння рыхтавалі ўсіх палітычных.

**Леанід Маракоў:** Павел Іванавіч, гэты верш вы каму-небудзь ужо чыталі? Тэма, трэба сказаць, яшчэ не кранутая ў нашай літаратуры... Сталінскі канцлагер у першы дзень вайны...

**Павел Пруднікаў:** Не. Нідзе нікому яшчэ не чытаў і не дыктаваў. Верш увесь у маёй галаве. Ды і няма каму ўжо чытаць... Ведаеце, у мяне цяпер бяда. Раней я ўнуку надыктоўваў, і ён запісваў. А цяпер унук у піянерскім лагеры... Ды нічога не зробішь... Сляпы, глухі... Папрасіў, каб прыехала Алена Кобец-Філімонава. Паабяцала прыехаць, але потым перадумала. Баіцца спякоты. Цяпер Маракоў прыехаў.... Запісаў... Цяпер магу не хвалявацца, што забуду.

**Л. М.** Павел Іванавіч, мабыць яшчэ якія "загатоўкі" ёсць у вашай памяці? Давайце запішам... Каб больш не хвалявацца...

**П. П.** Два "някрасаўскія" вершы памятаю.

**Л. М.** Пераклады Някрасава?

**П. П.** Не. Гэта вершы пра Някрасава. Пакуль усё. На жаль, многае забываю...

**Л. М.** Павел Іванавіч, вы не хвалюйцеся. Я з касеты перанясу на камп'ютэр, надрукую і прынясу вам на праўку...

А ў якім "бамаўскім" лагеры адбываліся падзеі, пра якія верш "Незабыўнае"?

**П. П.** Быў такі Тайшэтлаг у Краснаярскім краі.

**Л. М.** Вядомае месца... Яўхім Кіпель там таксама "гасцяваў". Цудам не загінуў... У гэтым лагеры з беларускіх пісьменнікаў вы нікога не сустракалі?

**П. П.** З нашых нікога не бачыў... Пазней сустрэў Андрэя Александровіча. Пра гэта я яшчэ скажу...

**Л. М.** Павел Іванавіч, мне вядома ваша аўтабіяграфія, але хацелася б удакладніць... Нарадзіліся вы ў 1911 годзе...

**П. П.** 14 ліпеня (па старому стылю) у вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і сялян. Нас было дзевяць дзяцей... Малым працаваў на сельскай гаспадарцы. Бацька, акрамя таго, гаршкі рабіў. І я "гаршэчнікам" стаў, дапамагаў яму. У школу ў першы клас пайшоў у 1917-м годзе ў 6 гадоў. У нашу вясковую Старадзедзінскую школу. У ёй было толькі тры класы. Адзін месяц пахадзіў, і пачалася рэвалюцыя. Школу, канешне, закрылі. Потым разбурылі. Тады нікто не ведаў, хто што рабіў, хто для чаго разбураў... Тады была развалюцыя. Са злосці ўсё ламалі... Я помню, як адзін п'яны вокны ў нашай школе пабіў. Дык стараста забіў яго за тыя вокны...

У грамадзянскую я так і не змог вучыцца. Толькі недзе ў пачатку 1920-х гадоў паступіў у другі клас суседняй школы ў Навадзедзіне. У другі клас я гады чатыры хадзіў. Пахаджу месяц, школу закрыюць. Ідзём у другую, што ў суседняй вёсцы. І там праз колькі тыдняў закрыюць. Вось так па ўсіх вёсках і хадзіў. Толькі апошні трэці клас скончыў у сваёй вёсцы, калі ў 1925-м у адной з хат адкрылі пачатковую школу.

Потым паступіў у чацвёрты клас Мілаславіцкай сямігодкі. Там працаваў настаўнікам паэт Янка Бобрык. Спачатку ў мяне з ім былі добрыя адносіны, але потым мы пасварыліся...

Сем пісьменнікаў выйшла з Мілаславіцкай сямігодкі: Павел Кавалёў, Іван Новікаў, мой стрыечны брат Алесь Пруднікаў, Клім Грыневіч...

У 1926 годзе я арганізаваў у школе літаратурны гурток. Чатыры гады, пакуль быў там, кіраваў ім... У васемнаццаць гадоў кінуў школу і паехаў у свет... А літгурток потым развaліўся...

**Л. М.** Куды накіраваліся?

**П. П.** Паехаў у Данбас. Працаваў там на Краматорскім металургічным заводзе.

**Л. М.** За грашыма паехалі?

**П. П.** Так, на заработкі. Спачатку працаваў на заводзе, а потым у шахтах... Але доўга там не прабыў. Улетку таго ж года вярнуўся.

У канцы лета 1930 года прыехаў у Мінск. Працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы — Магілёў — Крычаў — Рослаў. Калі чыгунку закончылі, паехаў у Магілёў. Працаваў на будаўніцтве Магілёўскай шаўковай фабрыкі (цяпер завод штучнага валакна імя Куйбышава). Пасля заканчэння будаўніцтва фабрыкі вярнуўся ў Мінск. Тут жыў мой стрыечны брат Алесь Пруднікаў. Да яго і прыехаў... Жылі мы з ім, як блізнякі... Потым, у вайну, Алесь загінуў...

Калі прыехаў да Алеся, ён працаваў на будаўніцтве. Я туды не ўладкаваўся і пайшоў у грузчыкі (у 1932 годзе выйдзе першая кніга П. Пруднікава ў сааўтарстве з Я. Субачам — "Песні грузчыкаў". — **Л. М.**). У лістападзе 1930 года ўладкаваўся на кніжную базу. Кніжкі падбіраў...

**Л. М.** Як трапілі туды?

**П. П.** Адзін хлопец дапамог. Я і Алеся туды зацягнуў.

**Л. М.** А што за хлопец?

**П. П.** Быў такі Левін. Таксама паэтам быў. Псеўданім "Стручок". Я не ведаю, куды ён потым дзеўся...

**Л. М.** Гэта цікавіла і мяне, бо С. Левін вучыўся разам з маім дзядзькам паэтам В. Мараковым і наогул з многімі іншымі маладымі, але ўжо вядомымі пісьменнікамі ў Мінскім Вышэйшым Белпедінстытуце: С. Шушкевічам, З. Біралам, Ю. Лявонным, З. Півавaравым, П. Хатулёвым... Саламона Левіна расстралялі 29 кастрычніка 1937 года разам з 18 іншымі беларускімі літаратарамі. Былі сярод іх і яго аднакурснікі... У той час ён ужо лічыўся адным з самых вядомых літаратурных крытыкаў.

**П. П.** Не верыцца... Малады такі хлопец, маладняковец. Ціхі, сціплы... Спачатку працаваў. Потым вучыўся ў педінстытуце... Нікалі б не падумаў...

Так... Пасля кніжнай базы ўладкаваўся ў рэдакцыю газеты "Беларуская вёска". Потым на радыё. Працаваў рэпарцёрам. З радыё перайшоў у газету "Савецкая Беларусь". Потым у Беларускае Тэлеграфнае Агенцтва, у якім працаваў да 1932 года, пакуль не паступіў у інстытут. Стыпендыю не атрымліваў, бо працягваў працаваць... У канцы 1932 года не знайшоў агульную мову з адным выкладчыкам-камуністам і кінуў інстытут. Паехаў у Ленінград. Паступіў у Інстытут замежных моў. Правучыўся адзін год, адчуў, што не тое, кінуў і паступіў у педінстытут імя Бубнова. Скончыў яго 1 ліпеня 1937 года. А ў ноч з 10 на 11 ліпеня 1937-га мяне арыштавалі на кватэры. Я ўжо абзавёўся сям'ёй. Жыў на Ліцейным праспекце, 13. Пасля майго арышту нарадзіўся хлопчык. Праз дзесяцігоддзі ён мяне знайшоў, прыязджаў сюды ў Мінск. Яму ўжо за 60. Цяжкае ў яго было жыццё... Але гэта іншая гісторыя...

Сядзеў у знакамітых Крастах. Там прабыў прыкладна месяцы чатыры. У снежні этапіравалі ў Сібір. Без суда і следства. Тады ніякіх судоў не было. Што хацелі, тое і рабілі. Вось адна "тройка" і вырашыла: восем гадоў. У рашэнні напісана было так: за варожыя адносіны да савецкай улады і за ідэалагічную блізкасць з беларускімі нацыянал-дэмакратамі. Усё было выдумана... Да мяне Кубіца арыштавалі. Потым выпусцілі... Пасля ўзялі Сапуна (псеўданім "Папараць") — быў такі паэт. Выпусцілі і яго. Жыла ў гэты час у Ленінградзе і паэтка Наталля Вішнеўская. Яна замуж выйшла за майго былога настаўніка Янку Бобрыка ў 1937 ці ў 1938 годзе, калі Алеся Звонака, другога яе мужа (першым быў А. Дудар), пасадзілі. Я. Бобрык вучыўся ў акадэміі мастацтвазнаўства ў аспірантуры.

...З Крастоў мяне этапавалі ў лагер, які знаходзіўся на Улан-Удэ ў Забайкаллі (тады Бурацкая ССР). Дарогу да Манголіі будаваў. Увесну 1941 года работы закончыліся і нас перагналі ў Тайшэтлаг будаваць БАМ. Дзе чыгунку пачынаюць весці, там і лагер адразу з'яўляецца. Калі дарогу будавалі, на ўсім яе працягу — 250 кіламетраў — было некалькі зон. Скончым участак, пераганяюць у іншую зону і г. д. Зона была абнесена калючым дротам. Там, дзе працавалі, калючага дроту не было: ахоўвалі стралкі і сабакі. А на ноч у зону гналі. Спалі ў бараку. Там магло быць і 100, і 300 чалавек. Барак быў падобны на склад агароднiны. Толькі па баках у яго былі прыладжаны двух- і трохпавярховыя палiцы. На іх і спалі. Потым пачалі падушкі даваць. Зацемна выганялі на працу, зацемна прыганялі. Неяк, калі вяртаўся, так абяссілеў, што зґубіў прытомнасць і ўпаў. Мяне падабралі і прывезлі ў зону. Потым у бальніцу паклалі. Пасля групу далі. Гэта мяне і выратавала. А так бы загінуў. Інваліднасць далі ў 1938 годзе. Потым тры разы яе працягвалі: у 1938, 1939, 1940. Знялі з цяжкай працы — капаць мёрзлую зямлю — і далі лёгкую — падматаць ці пераносіць штонебудзь лёгкае...

Увосень 1941-га я апынуўся ў Краснаярску, потым у Омску. З Омска праз Енісейск папаў у Дудзінку, потым у Нарыльск.

У 1941 годзе сустрэў у Дудзінцы паэта Андрэя Александровіча. Ён працаваў там грузчыкам у порце. Хоць адлегласць паміж Дудзінкай і Нарыльскам больш за 100 кіламетраў, кіравала тут адно ўпраўленне. Дудзінка — гэта марскі і рачны порт. Усе грузы ў Нарыльск праз Дудзінку ішлі...

...Калі сталі рабіць пераклічку, Александровіч пачуў маё прозвішча і падышоў да мяне. Ён сказаў: "Ой, даражэнькі, ці пазнаеш мяне?" Я адказаў: "Нешта не прыпомню..." Тады ён прадставіўся: "Александровіч маё прозвішча". І я ўспомніў... Гэта быў чалавек нумар адзін у Беларусі. Член ЦК партыі, член ЦВК, дэпутат Вярхоўнага Савета... Дырэктар Інстытута літаратуры Акадэміі навук, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў... Трое сутак мы бачыліся. Ён да мяне прыходзіў пагаварыць, паўспамінаць. Потым яго кудысьці адправілі. Перавезлі ў Нарыльск і мяне. Тады не гаварылі, куды адпраўляюць. Пасля высветлілася, што мы былі ў адным лагеры... А сустрэліся толькі ў Мінску ў пачатку 1960-х, праз дваццаць гадоў. Я даведаўся, што ён тут, і прыехаў да яго. Мы гаварылі аб арыштах. Ён усё пытаўся: "За што пасадзілі?"..

У 1930-я гады А. Александровіч дапамог мне, маладому паэту, першую кнігу падрыхтаваць і выдаць. Я тады ў друку выступаў пад псеўданімам Паўлюк Буравей. Гэта было звязана з тым, што яшчэ адзін Пруднікаў быў. Мой стрыечны брат Алесь. Мы неяк вырашылі: трэба некаму з нас псеўданім узяць. Бачу, Алесь не хоча. Гавару: давай я вазьму... А пасля вайны, калі яго ўжо не стала, я падумаў: навошта мне мой псеўданім? І стаў пад сваім прозвішчам жыць і працаваць...

**Л. М.** Павел Іванавіч, вядома, што ў канцлагерах шмат каго з "нацдэмаў", беларускіх пісьменнікаў, расстрэльвалі. Так загінулі С. Астрэйка, А. Вазіла, М. Гарэцкі, М. Гваздоў, Л. Калюга, А. Смоліч... Пры вас каганебудзь прысуджалі да расстрэлу?

**П. П.** Прысуджалі. Але, як ужо гаварыў, беларускіх пісьменнікаў у нашым лагпункце не было. Расстрэльвалі ж у асноўным тых, хто спрабаваў уцячы. Я бываў на такіх судах. Паказальных. Непасрэдна ў лагеры. Судзілі і амаль заўсёды прыгаворвалі да расстрэлу.

Ды і куды там уцякаць? Мне колькі разоў прапаноўвалі. А куды бегчы? Уся Сібір у лагерах, кругом ахоўнікі. Усіх лавілі. Хаця, можа, хто-небудзь і ўцёк. Не ведаю. Помню толькі, як аднаму казаку з-пад Растова дапамагаў уцякаць. Гэта якраз у 1937-м годзе было. Спачатку мы хацелі ўцякаць разам утрох. Дык адзін з нас не вытрымаў і ўцёк сам. Не ведаю, вярнулі яго назад у лагер ці не. Магчыма, і ўцёк. Ён працаваў у лагеры бухгалтарам. Адзенне ў яго было добрае, і грошы вадзіліся...

У 1946 годзе, пасля вызвалення, апынуўся ў Смаленску... У Беларусь не пускалі: палітычна небяспечны...

Потым Смаленская вобласць, горад Рослаўль. Блізка да Радзімы. Мая вёска на мяжы. Я нібыта згубіў свой пашпарт — схаваў. І тады мне далі другі — гадзічны. Там ужо шыфру не было, і я мог уладкоўвацца працаваць настаўнікам. Потым захварэў. Язва страўніка адкрылася.

У 1947 годзе ажаніўся з Ганнай Паўлаўнай, яна таксама настаўніцай працавала. З таго часу мы разам і жывём. Дзве дачкі нарадзіліся: Вольга ў 1948-м, Ніна ў 1951-м. У 1952 годзе пераехаў у Беларусь. У Браслаўскі раён. У Мінску не давалі працаваць. Пасылалі яшчэ ў Оршу выкладчыкам інстытута. Але не паехаў. Патлумачыў, што здароўе не дазваляе. А сам сабе думаў: "З інстытута ўсё роўна прагоняць..."

...У 1955 годзе падаў прашэнне аб рэабілітацыі, бо зноў не давалі нідзе работы. Была створана спецыяльная камісія ЦК па маёй справе. Дагэтуль мяне звальнялі ўсюды, прыдумвалі ўсялякае, каб звольніць. Справа трапіла ў рукі начальніка архіўнага аддзела. Быў такі палкоўнік КДБ Пракоп Емяльянаў, мой аднакласнік. Ён гаварыў, што мяне тады моцна выручыў. Расказаў, што пра мяне ўсё распытвалі... Потым у ЦК мне так і сказалі: "Вы можаце пра сябе не расказваць, нам пра вас ужо ўсё расказалі з самага дзяцінства". П. Емяльянаў мне дапамог у гэтых адносінах. Яго ўжо няма, памёр.

Гадоў сем назад я напісаў кніжку — "За калючым дротам". Пра свой лёс, пачынаючы з арышту. У кніжцы дзве аповесці. Адна называецца "Жязовыя рукавіцы" — гэта пра турму. Другая — "Паўночнае пекла". Выйшла кніга ў 1993 годзе...

...Цяжка мне пра гэта расказваць. У адной кніжцы напісаў. У другой... Другую цяпер не даюць друкаваць. Там пра тое, як я жыў на свабодзе пасля вызвалення з канцлагера. Пад страхам увесь час. Усе свае пакуты пасялагерныя апісаў. Колькі ні б'юся, не магу яе выдаць. Спазніўся...

*Чэрвень—лістапад 1999 года.*

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ



# ЯК СУСТРЭНЕШ НОВЫ ГОД — ТАК ЯГО І ПРАЖЫВЕШ

Новы год — бадай, адно з самых любімых народных святаў, яго з нецярплівасцю чакаюць і дарослыя, і дзеці.

Адзначаецца Новы год у ноч з 31 снежня на 1 студзеня, але падрыхтоўка да яго пачынаецца значна раней: загадзя ўпрыгожваюцца вуліцы і вітрыны магазінаў, у паветры разліваецца тонкі пах хвоі, і, здаецца, усё навокал жыве адчуваннем хуткага свята.

Навагоднія ўрачыстасці маюць у беларусаў сваю гісторыю. У дахрысціянскую эпоху нашы продкі святкавалі Новы год з 1 сакавіка, бо менавіта з наступленнем вясны пачынаўся земляробчы год селяніна, а значыць, і новы віток жыцця. Традыцыя гэта захоўвалася яшчэ доўгі час нават пасля прыняцця хрысціянства, але з увядзеннем у 1584 годзе ў Вялікім княстве Літоўскім грыгарыянскага календара Новы год беларусы адзначалі ўжо з 1 студзеня (у Расіі адпаведны ўказ быў выдадзены Пятром I у 1700 годзе).

Цяпер навагоднія свята мае цэлы *шэраг* спецыфічных абрадаў і асабліасцей. Амаль у кожнай сям'і на Новы год ставяць ёлку, упрыгожаную цацкамі, гірляндамі, свечкамі, — гэта вечназялёнае дрэва сімвалізуе вечнае жыццё, яго бясконцасць і неўміручасць. Бліжэй да поўначы ладзіцца святочная вячэра. Звычайна яна вылучаецца шчодрасцю і багаццем, таму што мы да гэтага часу верым у народную прыкмету: "Як сустрэнеш Новы год — так яго і пражывеш". На свята стараюцца сабрацца ўсе члены сям'і — "каб быць разам увесь год". Спачатку за сталом абавязкова ўспамінаецца адыходзячы год і ўсё добрае, што ён падарыў людзям, а як толькі пробʼе 12 гадзін ночы, пачынаецца святкаванне Новага года. Добрай традыцыяй ужо стала не толькі віншаваць адзін аднаго са святам, але і абменьвацца недарагімі падарункамі талісманамі, а для дзяцей у гэту ноч кладуць пад ёлку навагоднія падарункі, якія нібыта прынёс сам Дзед Мароз.

Навагоднія традыцыі сённяшняга дня ўключаюць і некаторыя забабоны: нельга спаць у навагодні вечар, бо будзеш хадзіць сонны ўвесь год; нельга сустракаць Новы год, не вярнуўшы каму-небудзь пазыку, бо цэлы год будзеш мець даўгі. Да навагодняга вечара абавязкова трэба памірыцца з тым, каго ты пакрыўдзіў ці абразіў, бо ў новым годзе ад цябе адвернуцца многія з тваіх блізкіх і знаёмых і г. д.

Падрыхтавала
Нэлі ПРЫВАЛАВА.

"MINSK OPEN-99"



У сталічным лядовым Палацы спорту па вуліцы Прытыцкага адбыўся турнір сусветнай кваліфікацыі па спартыўных танцах "MINSK OPEN-99". Ён праходзіў у нашай рэспубліцы ўпершыню. У спаборніцтвах, якія праводзіліся ў пяці ўзроставых групах па дзвюх праграмах — еўрапейскай і лацінаамерыканскай, узялі ўдзел звыш 200 танцавальных пар з 9 краін свету.

НА ЗДЫМКАХ: урачыстае адкрыццё турніру; еўрапейскае танга; спаборніцтвы па праграме — лацінаамерыканскія танцы.

Фота Мікалая ПЯТРОВА.






ПАЛЕСКІЯ ГІСТОРЫІ

## ПЛОТ

Муж Зоі Алесь давёў да ладу ўдаве Марылі паламаны плот. І тая па вясковай завядзёнцы запрасіла яго на абед. У гэты час Зоя забегла ў хату. Пераступіла парог і бачыць: сядзіць яе Алесь за сталом перад бутэлькаю, а Марыля — насупраць: вараныя яйкі лупіць ды падкладвае ў талерку работніку.

— Ой, Марылька, разбэсціш ты маіго мужа, — смяецца на ўсе застаўкі Зоя, — лупленымі яйкамі корміш… Хіба ён без рук? Хіба сам яйка не ацярэбіць? Весела, раскаціста смяялася, а прыйшла дамоў збянтэжаная, змрочная. Падалося жанчыне, што вельмі ж Марыля дагаджала яе Алесю. І надта ж ласкава на яго пазірала, ахвотна падкладваючы яму ў талерку лупленыя яйкі.

Вярнуўся Алесь дамоў.

— Што ж гэта яна цябе лупленымі яйкамі корміць, га? — спытала дрыжлівым галасам.

— Я за чужым сталом не гаспадар. Што даюць, тое і ем, — суха адказаў муж.

На другі дзень Зоя сама здзівілася: чаму гэта з яе галавы не выходзяць гэтыя лупленыя яйкі? Нават смешна стала. "Выкінь іх з галавы", — загадала сабе.

І не змагла выкінуць. Засела, застрамілася ў душы… на месяцы, нават на гады. То быццам бы прападзе ўспамін пра яйкі, то зноў падступіць да сэрца, кальне. У такія хвіліны Зоя, нібы рэчка ў час паводкі, выходзіла з берагоў, ускламучвалася:

— Як яна табе дагаджала! Падумаць толькі — лупленымі яйкамі з далоняў карміла: на, галубок, дзяўбі, дзяўбі, шызы… А ты размяк, асалавеў… У-у-у, нячыстая душа! У-у-у, гад падкалодны.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

КРЫЖАВАНКА-ГАЛАВАЛОМКА

*Паспрабуйце ўпісаць прапанаваныя словы ў красворд. Калі зробіце гэта правільна, то пры замене лічбаў літарамі прачытаеце віншаванне. (Пачніце са слова санаторый).*



Руно, анёл, кадр,
сват, ратай,
булат, рала,
скарб, каробка,
узор, опера,
дах, валакно,
санаторый, абора,
абоз, барак,
тарыф, брама,
акт, іскра, авал,
алтар, аул, біла,
асілак, указ,
багор, абраза,
ачко, азон,
эра, акрабат,
рэнта.

Склала Ірына БЕКІШ.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2572.
Падпісана да друку 27.12.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).